# ЗГОДА

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК
http://www.zgoda-weekly.org

№ 26 (254) 12 — 18 ліпеня 2002 г.



СТАР. 7-8
**TV ПРАГРАМА** 15 – 21 ліпеня

СТАР. 3
**ПРАФСАЮЗЫ МЯНЯЮЦЬ КОЛЕР**
Франц Вітко сасьпеў да рэфармаваньня ФПБ. Ці сасьпелі да гэтага самі прафсаюзы?

СТАР. 5
**ІРЛАНДСКІ ПАРАД-АЛЕ**
Бойкі паміж пратэстантамі і каталікамі ў Ірландыі зноў нагадваюць пра падзеі 300-гадовай даўніны

СТАР. 6
**ШАГАЛ ВОЗВРАЩАЕТСЯ**
К 115-летию Марка Шагала его внучки опять организуют выставку картин художника на исторической родине знаменитого витеблянина


FROM BYELORUSSIA WITH LOVE

# ОБСЕ ОТ СЕССИИ ДО СЕССИИ

АЛЕКСАНДР СДВИЖКОВ

**8 июля Парламентская ассамблея ОБСЕ в очередной раз отложила в долгий евробюрократический ящик рассмотрение вопроса о статусе белорусской депутации. Пусть ВС №13 умер, но евродепутаты вовсе не спешат провозглашать здравицы за ПП №2.**



Все пленарные дебаты по белорусскому представительству перенесены с летней на зимнюю сессию ПА ОБСЕ. Как бы там ни старались лукашенковские депутаты, в Берлине не случилось ничего, что бы говорило о скором получении палатниками права полноправно заседать в ПА ОБСЕ. Даже после зимней сессии, которая должна состояться в феврале будущего года в Вене. Маловато для этого поддержки депутатов из России, Армении и Швейцарии.

Едва ли позиции остальных 37 делегаций, решивших повременить с пересмотром отношений с лукашенковской Беларусью, за это время кардинальным образом изменятся.

Вместе с тем, по духу и букве Хельсинкского заключительного акта 1975 года, а также Парижской хартии новой Европы 1991 года, Беларусь остается членом Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе. Стало быть, надо сотрудничать, хотя формы европейского сотрудничества ничуть не изменились с брежневских времен. Достаточно сравнить белорусский опыт сотрудничества с теми хельсинкскими мытарствами, что испытали СССР и его союзники по Варшавскому договору, неустанно отбиваясь от обвинений в нарушении прав человека.

Преемникам СССР по наследству достались все хельсинкские источники и парижские составляющие межгосударственного европейского сотрудничества. Естественно, ОБСЕ никак не может пренебречь своими историческими традициями в отношении к постсоветским странам.

Увы, ближе всех к своему коммунистическому прошлому оказалась Беларусь. К тому же, ее нынешняя репутация в ОБСЕ определяется общей внешнеполитической линией белорусского руководства, бездумно следующей советским стереотипам межгосударственных взаимодействий.

Лукашенковская Беларусь являет чисто советскую неуступчивость по отношению к Западу и так же сопровождает ее уверениями в любви и дружбе. Аналогично, в цивилизованном мире относятся к Беларуси как к типичному представителю социалистического лагеря. Конечно, президент Лукашенко далеко не генсек Брежнев, РБ совсем не СССР. Но идеология *«мирного сосуществования государств с различным общественно-политическим строем»* не претерпела существенных изменений в сношениях западных стран с официальным Минском.

Фундаментальное различие между цивилизованными странами и Беларусью также подчеркивает признание на Западе наших оппозиционеров. С одной стороны, ему исторически проще иметь с ними дело, так как в цивилизованном мире существует давняя традиция поддержки советских диссидентов. С другой, круг деятельности нашей демократической оппозиции ограничен достопамятной «третьей корзиной» Хельсинкских соглашений. Ведь спустя десятилетия в Беларуси все те же проблемы прав человека, свободы слова и свободных парламентских выборов.

Тут официальному Минску крыть нечем. Ничего не меняется в Беларуси по хельсинкскому счету. Поэтому Анатолий Лебедько с полным на то основанием имеет право говорить об успехах делегации Консультативного совета оппозиционных политических партий на берлинской сессии. Статус-кво изоляции лукашенковской Беларуси от полноправного членства в Парламентской ассамблее остался в силе.

Палатный полпред Владимир Коноплев имел те же 15 минут, что и Анатолий Лебедько, для выступления на «круглом столе» по белорусскому вопросу. Деликатные европейцы внимательно выслушали официальную точку зрения, но в душе затаили некоторую хельсинкскую грубость. Поскольку уже были наслышаны о «теневом бюджете», торговле оружием, фактической депортации КНГ ОБСЕ, судебной расправе с журналистами газеты *«Пагоня»* и прочих прелестях белорусского авторитаризма. Соответственно, вся фактура, грамотно подобранная оппозицией, была подробно изложена в специальной резолюции Политического комитета ПА ОБСЕ по Беларуси.

Надо отдать должное представителям КСОПП, по словам Анатолия Лебедько, *«сделавшим ставку на работу с национальными делегациями»*. Тогда как палатные депутаты в основном пытались договориться с руководством ПА ОБСЕ. Итог закономерен, и Ута Цапф, председательствовавшая на «круглом столе», обещала все то же ровное и равное отношение ОБСЕ как к белорусским властям, так и к оппозиции.

Не стоит сомневаться, что делегациям оппозиционеров, которых в Берлине представляли Анатолий Лебедько (Объединенная гражданская партия), Валентина Полевикова (Женская партия *«Надзея»*), Владимир Нистюк (Белорусская социал-демократическая партия – Народная грамада), еще долго ездить на сессии ОБСЕ. Не заказано участие в тамошних «круглых столах» и представителям Либерально-демократической партии, коль скоро они заявляют о своей оппозиционности.

*«Милости просим»*, – было сказано в кулуарах в ОБСЕ также Владимиру Коноплеву и его палатным товарищам. Хотя очень многие евродепутаты разделяют точку зрения Анатолия Лебедько, что в Беларуси не имеется полноценного парламента. Добавим от себя, что нет и парламентской оппозиции. Вот кабы на заседания ПА ОБСЕ отправились бы вышеперечисленные оппозиционеры, но с палатными мандатами! В таком демократическом случае белорусский вопрос был бы разрешен как чисто техническое недоразумение без долгих дебатов.

Депутаты ПА ОБСЕ могут подождать выборов в палату №3. И от сессии до сессии не спеша наблюдать, как выполняются рекомендации ОБСЕ. А сессия всего два раза в год. Так что ждите, вас вызовут. ■

АРХІЎ

# ЖЫВЫ КУПАЛА

АЛЯКСАНДАР КАВАЛЬСКІ

**Вялае сьвяткаваньне 120-гадовага юбілею Янкі Купалы наводзіць на сумныя думкі: народным паэтам ён ёсьць хіба што на паперы. Для большасьці беларусаў Купала — гэта проста адзін з аўтараў школьнае праграмы па беларускай літаратуры. А ягоныя вершы значаць для нас ня болей, чым *«стихи Василя Быкова»*, на якіх вырас наш прэзыдэнт.**

Напэўна, адна з самых значных прычынаў такой няўдзячнасьці ёсьць тое, што мы амаль нічога вартага ўвагі пра Купалу не ведаем. Ён для нас музэйны экспанат, пад якім кожная палітычная сіла вешае сваю шыльду. Гэты юбілей да савецкага афіцыёзнага штампу «народны пісьменьнік» дадаў апазыцыйны – Купала-«незалежнік». Ні першае, ні другое нічога не дадае ў чалавечы партрэт Янкі Купалы. Між тым толькі ягоныя чалавечыя якасьці й могуць ажывіць вобраз паэта, вярнуць яго да нас праз 120 гадоў. Будзем спадзявацца, хоць на 200-годдзе песьняра хто-небудзь таленавіты здыме дакумэнтальны сэрыял пра Купалу кшталту парфёнаўскага «Жывы Пушкін». Пакуль жа мы прапануем чытачам толькі невялічкія нататкі пра жывога Купалу.

### Ад Луцэвічаў да Купалы

Насуперак усім энцыкляпэдыям, паэт ніякім чынам ня быў Іванам Дамінікавічам. Ахрышчаны ён быў Янам і Янам, Янкам, Януком пражыў усё жыцьцё. Свае першыя словы, як і першыя вершы, Купала, зразумела, вымавіў і напісаў па-польску. Польская мова была роднай для бацькоў Купалы – дробных арандатараў Дамініка й Бянігны Луцэвічаў. Цалкам магчыма, што, каб не сустрэча у 1904-05 гадох у Менску з беларускімі адраджэнцамі, наша краіна падаравала б Польшчы яшчэ аднаго вялікага паэта пасьля Адама Міцкевіча.

Адпаведна паходзіў Купала не з заможнай сялянскай сям'і, а зусім наадварот – са зьбяднелай шляхецкай. Да радкоў *«Я мужык-беларус, пан сахі і касы»* трэба адносіцца як да аўтарскай мэтафары. Хоць Купала як старэйшы сын у сям'і, напэўна, умеў касіць і араць, наўрад ці ён любіў гэта рабіць. Да 24 гадоў ён памяняў шмат службаў, нідзе надоўга не затрымліваўся. З пасады пісара яго, напрыклад, звольнілі за дрэнны почырк.

На самой справе, яго прыгнятала малацікавая, руцінная праца. А іншай знайсьці ня мог, бо не хапала адукацыі. Як бы гэта ні выглядала неверагодным, але Купала так і не атрымаў сыстэматычнай адукацыі, ня кажучы ўжо пра ўнівэрсытэцкі дыплём. Хаця нейкія спробы былі – з 1909 па 1913 гады ў Санкт-Пецярбурзе ён наведвае курсы Чарняева (якія па ўзроўні ведаў мала саступалі ўнівэрсытэцкай праграме), у 1915 годзе разам з будучай жонкай вучыцца ў народным унівэрсытэце імя Шаняўскага ў Маскве. Але адтуль быў мабілізаваны ў армію.

Зноў цікавы факт – Купала служыў, як бы мы зараз сказалі, у чыгуначных вайсках. Прычым, пад камандай свайго шваг-ра – Вінцэнта Станкевіча. Фактычна, ад фронту паэт «адкасіў па блаце».

### Купала й «Наша ніва»

Найбольшы ўплыў на фармаваньне Купалы аказала ягоная праца ў рэдакцыі першай легальнай беларускай газэты «Наша ніва». Каб уявіць, у якіх варунках гартаваўся талент паэта, трэба спачатку зразумець, чым была «НН» пачатку мінулага стагодзьдзя.

Рэдакцыя месьцілася на Віленскай, 20. Гэта было памяшканьне колішняй крамы з уваходам з вуліцы. Унутры плошча падзялялася на кватэру, дзе жыў зь сям'ёй Аляксандар Уласаў, другі выдавец і рэдактар «НН», і ўласна рэдакцыю. Там жа за нейкай шырмай начавалі нашаніўцы Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) і Янка Купала. Вацлаў Ластоўскі так апісвае рэдакцыю ўзору 1909 году: *«Кантора была ў запушчаным стане й на першы погляд рабіла ўражаньне складу макулятуры»*.

Зьнешні выгляд памяшканьня толькі падкрэсьліваў фінансавае становішча газэты, аб якім Кветка Вітан пісала наступнае: *«Наша ніва» – асабліва спачатку – мела мала платных падпісчыкаў, на вёску высылалася пераважна дарма, а ў самой Вільні разыходзілася мала. З гледзішча гаспадарскага гэта было моцна дэфіцытнае прадпрыемства»*.

Карацей, у той час незалежная беларуская прэса мела тыя ж цяжкасьці, што й зараз. Вось толькі тагачасны амэрыканскі Кангрэс гранты на падтрымку свабоды слова не выдзяляў. Грошы прыходзілася шукаць у беларусаў.

Займаўся гэтым Іван Луцкевіч. Нешта яму шанцавала знайсьці ў фундатараў, нешта выдаткоўвау сам А. Уласаў з прыбыткаў свайго маёнтку. Але, паколькі сваёй сьвядомай буржуазіі ў беларусаў не было, то І. Луцкевіч прыходзілася зарабляць на спэкуляцыі антыкварыятам. Калі здаралася выгадна перапрадаць нейкую рэч, адразу пагашалася запазычанасьць па заробках, за паперу, за тыпаграфскія паслугі.

*Працяг на стар. 6* ➲

## АНЕКДОТ-С

– Чаму беларусы так шануюць Янку Купалу і любяць яго п'есу «Раскіданае гняздо»?
– Бо ён калісьці там напісаў: *«Бацька павесіўся!»*

* * *

– Правда ли, что Лукашенко знает русский, как белорусский?
– Не совсем, он белорусский знает как русский.

## НАВІНЫ

**Візіт.** На гэтым тыдні свой першы візіт у Беларусь здзейсніў генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каітыра Мацуура. Спадар Мацуура адкрыў Нацыянальны цэнтр інфармацыі і дакументацыі, узяў ўдзел у міжнародным кангрэсе «Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі» і адкрыцці выставы Марка Шагала ў Нацыянальным мастацкім музеі. Таксама глава ЮНЕСКА правёў сустрэчы з прэзыдэнтам Лукашэнкам, міністрамі Хвастовым і Гулякам і асабіста ўручыў Мірскаму замку дыплом помніка культуры сусветнага значэння. *«Шэсць тысяч моваў знаходзяцца цяпер у небяспецы знішчэння. Таму ў 1999 годзе ЮНЕСКА абвесціла 21 лютага Сусветным Днём роднай мовы, які адзначаецца цяпер штогод. І гэта дапамагае ЮНЕСКА вітаць карыстанне матчынай мовай»*, – адзначыў на сімпозіуме «Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі» Каітыра Мацуура. Там жа 17 грамадскіх арганізацый нашай краіны, сярод якіх беларускі ПЭН-Цэнтр, ТБМ, БАЖ ды іншыя, перадалі главе ЮНЕСКА зварот у сувязі з *«катастрафічнай сітуацыяй з выкарыстаннем беларускай мовы ў электронных СМІ»*.

**Суседзі.** Консульскі аддзел Расійскай амбасады і Генеральнае консульства РФ у Брэсце часова прыпынілі прыём заяваў на атрыманне расійскага грамадзянства. Гэта тлумачыцца тым, што з 1 ліпеня ў нашых усходніх суседзяў уступіў у сілу новы закон «Аб грамадзянстве Расійскай Федэрацыі». У хуткім часе на яго падставе будзе выдадзена новае палажэнне, што рэгулюе парадак атрымання ці пазбаўлення расійскага грамадзянства. Усе заявы, пададзеныя да 1 ліпеня, будуць разглядацца па старым палажэнні.

**Пікет.** 9 ліпеня на плошчы Бангалор адбыўся пікет пратэсту супраць руйнавання ў верасні мінулага году будынку Мінскай сінагогі. Двухпавярховая камяніца па вуліцы Дзімітрава,3 была помнікам архітэктуры XIX стагоддзя. Зараз на гэтым месцы вядзецца будаўніцтва 16-кватэрнага элітнага дома.

*«У сувязі з будаўнічымі работамі нас пазбавілі дзіцячай і гаспадарчай пляцовак, а таксама зялёных насаджэнняў. Узвядзенне дома перакрые нам выхад на вуліцу Шпалерная. Тысячы жыхароў нашага мікраёна пазбаўлены нармальных умоваў пражывання»*, – зазначыла адна з удзельніц пікетавання В. Вечар.

**Адукацыя.** Міністэрства адукацыі паведамляе, што ў гэтым годзе ў Беларусі скарацілася колькасць выпускнікоў-медалістаў. У 2002 годзе медалі атрымалі 6126 чалавек, што складае прыкладна 6,8 працэнтаў ад агульнай колькасці выпускнікоў. Прычым, залатых медалістаў непараўнальна больш, чым срэбраных, – адпаведна 4226 і 1900. У ранейшыя гады колькасьць медалістаў трымалася на ўзроўні 10–12 тысяч. Скарачэнне колькасці выдатнікаў можа быць звязана з двума чыннікамі. Па-першае, з гэтага года было ўведзена новае правіла, паводле якога прэтэндэнт на медаль павінен быў вучыцца на пяцёркі не два апошнія гады, а чатыры. Па-другое, найбольш прэстыжныя ВНУ краіны адмовіліся ад сістэмы прэферэнцый пры паступленні для медалістаў. Зараз яны здаюць уступныя іспыты на агульных падставах, што значна паніжае стымул да атрымання медаля.

**Аб'яднанне.** З'явіліся першыя ахвяры працэсу аб'яднання Беларускага саюза моладзі і Беларускага патрыятычнага саюза моладзі. 5 ліпеня Ала Данілава, першы сакратар БСМ, сышла са сваёй пасады без тлумачэння прычын. Што ж тычыцца будучага старшыні аб'яднанай арганізацыі, то БСМ прапанаваў кандыдатуру Аляксандра Нахаенкі, дзейснага кіраўніка Дэпартамента па справах моладзі Міністэрства адукацыі Беларусі. БПСМ пакуль з гэтым не пагаджаецца.

**Футбол.** Запланаваны на 21 жніўня таварыскі матч паміж футбольнымі зборнымі Ізраіля і Беларусі не адбудзецца. Як паведамляе інтэрнет-рэсурс «Беларускі футбол», прычына адмовы ізраільскіх спартоўцаў – адсутнасць прамога авіярэйсу паміж Мінскам і Тэль-Авівам. Транзіт праз трэцюю краіну не адпавядае крытэрыям бяспечнасці, а да таго ж, ізраільскія футбалісты не хочуць спазніцца на свой нацыянальны чэмпіянат, які пачынаецца 24 жніўня. Замест сустрэчы з беларусамі плануецца гульня з нацыянальнай і моладзевай зборнымі Літвы – з Вільні ў Тэль-Авів ёсць зручны прамы рэйс.

**Працэс.** 23 ліпеня будзе вынесены прысуд па зыску супраць былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра. Яго абвінавачваюць у службовай нядбайнасці яшчэ на пасадзе кіраўніка Белаграпромбанку ды нявыплаце падаходнага падатку ў часе працы ў маскоўскай філіі нямецкага канцэрну «Геа». Пракурор палічыў віну Міхаіла Чыгіра відавочнай і патрабаваў 3 гады турмы з адтэрміноўкай на 2 гады. Сам падсудны заявіў: *«Адвакаты так добра паказалі абсурднасць гэтых абвінавачванняў, што мне не было чаго дадаць»*. Тым не менш, экс-прэм'ер не чакае апраўдальнага прысуду, бо лічыць сам працэс палітычным, які стае ў адным шэрагу з іншымі выпадкамі пераследу чальцоў ягонай сям'і. Нагадаем, што раней да ўмоўнага тэрміну была асуджана жонка Міхаіла Чыгіра Юлія за непадпарадкаванне супрацоўніку міліцыі і нанясені яму цялесных пашкоджанняў, а сын Аляксандр атрымаў 7 гадоў пазбаўлення волі за «крадзеж і збыт аўтамабіляў».

**Сувязь.** Нягледзячы на прыход на беларускі рынак другога правайдэра сотавай сувязі – кампаніі МТС, – былы манапаліст *VELCOM* рапартуе пра рэкорднае павелічэнне колькасці сваіх абанентаў. Па дадзеных кампаніі, з 1 ліпеня штодзень каля 1000 беларусаў становяцца кліентамі *VELCOM*'а. Праз год мэнэджэры кампаніі чакаюць выхаду на ўзровень 550 тысячаў абанентаў. Трэба адзначыць, што кампанія дагэтуль пашырае зону свайго прыёму. Да канца лета ўстойлівая сувязь будзе наладжана на ўсіх станцыях метро Мінска. У бліжэйшы час сігнал *GSM* змогуць атрымліваць жыхары Вілейкі, Смаргоні і Мар'інай Горкі.

**Кампенсацыі.** На мінулым тыдні пачалася выплата кампенсацый падманутым укладальнікам банка «Белбалтыя». Пакуль можна атрымаць толькі частку ўкладу да 500 долараў ЗША. На частковую кампенсацыю ў гэтым годзе «Беларусбанкам» будзе выдаткавана 4,2 мільёны долараў. Агульная ж сума згубленых укладаў сягае за 117 мільёнаў.

## ХИТ-ПАРАД ГЛУПОСТИ



*«Министр, прокурор, генерал – эти слова уже и в народе нарицательными стали»*

**(А. Лукашенко, ОНТ 09.07.02)**



*«Тенденции развития нашего общества таковы, что половая активность скоро станет единственным физическим упражнением»*

**(В. Силява, гл. акушер-гинеколог Минздрава, «Минский курьер», 10.07.02)**



*«...баба Женя – местная достопримечательность, не требующая к тому же реставрации и ухода»*

**(Ю. Федотова, «Рэспубліка»,**

## ПРАЦЭС

# І ў судзе - перфоманс

АЛЕСЯ ГОРДЗІНА

**У панядзелак над скандальна вядомым мастаком Алесем Пушкіным адбыўся суд за акцыю на афіцыйны Дзень Незалежнасці рэспублікі. Майстра застаўся верны сабе і зрабіў перфоманс нават з суда.**

Такога яшчэ на памяці і журналістаў, і міліцыянтаў не было. Пушкін падкаціў да Маскоўскага РУУСа, дзе разглядалася справа, на таксі і пад ручку з жонкай у суправаджэнні журналістаў і іншай публікі ўрачыста пайшоў да кабінета суддзі. Пад яе дзвярыма быў «урублены» на поўную моц магнітафон з песняй *DEEP PURPLE «Soldier of fortune»*. Эфект быў такі ашаламляльны, што міліцыянты толькі разгублена аглядваліся на Пушкіна і кампанію, нічога не разумеючы. Музычнае суправаджэнне гучала ўсе 10 хвілінаў, якія заставаліся да пачатку паседжання.

У кабінет суддзі Надзеі Равуцкай Пушкін зайшоў з суніцамі, якія сам назбіраў, і відэакасетай аб сваёй творчасці. Суддзя катэгарычна адмовілася ад падарункаў і сказала, што сама купіць касету.

Мастака абвінавачвалі ў *«непадпарадкаванні законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі»*. 3 ліпеня ён вырашыў адзначыць незалежнасць ушанаваннем памяці генералаў-калабарантаў Усевалада Родзькі і Міхала Вітушкі, наладзіўшы перфоманс. Пушкін выставіў іх партрэты у скверы ля плошчы Незалежнасці паміж Чырвоным касцёлам і гатэлем «Мінск». Мастак рассцяліў белае палатно, узяў з дзесятак лялек і з нямецкай аўчаркай па мянушцы Ганс выкупаў іх у фантане. Абрад, як патлумачыў творца, сімвалізаваў ачышчэнне людскіх душаў. Міліцыянты сталі дапытвацца, ці ўзгоднена акцыя з планам гарадскіх мерапрыемстваў па святкаванні Дня Незалежнасці, і патрабавалі спыніцца. Пушкін не пагадзіўся.

*«Калі поп пачынае літургію, яе трэба давесці да канца. Так і ў мастацтве,* – патлумачыў пазней суддзі Алесь Пушкін. – *Бо гэта ёсць сакраментальная таямніца, і ў Боскую літургію мастацтва, пані суддзя, нікому не дадзена ўмешвацца»*. Калі Пушкін пачаў пісаць на прасціне словы «Слава героям!», міліцыянты скруцілі яго і надзелі кайданкі. Пры гэтым чырвоная фарба бахнулася на зямлю, крывавым колерам заліўшы форму міліцыянтаў.

*«Бог не ў сіле, а ў праўдзе. А праўда – у чыстых сэрцах, пані суддзя»*, – рэзюмаваў свой выступ мастак.

Зважаючы на неардынарныя паводзіны правапарушальніка, «група падтрымкі» прадказвала Пушкіну 15 сутак арышту. Вынесены прысуд аказаўся нечаканым – «усяго толькі» штраф 60 тысяч рублей. Алесю паставілі ў віну тое, што ён адмовіўся прайсці ў міліцыю для спраўджвання асобы і не назваў свае анкетныя дадзеныя. Вінцук Вячорка, які прысутнічаў на судзе, не выключае, што сваю ролю адыграла міжнародная рэакцыя. Як вядома, пасля затрымання мастака старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла звярнулася да МЗС Канады, а тое, у сваю чаргу, папрасіла «ўзяць на кантроль» справу Пушкіна АБСЕ. Сам жа мастак лічыць, што суддзя не засталася раўнадушнай да яго мужчынскіх чараў. Да таго ж, мяркуе Пушкін, сыграла ролю і шчырасць. Ён *«не віляў і не хлусіў»* і на пытанне суддзі , ці насамрэч не падпарадкоўваўся міліцыі, адказаў: «Так точна».

■

## КНІГАРНЯ

# Дапаможнік па руйнаванні культуры

ЗМІЦЕР СЕРАБРАКОЎ

**8 ліпеня ў залі кінатэатра «Змена» адбылася прэзентацыя кнігі Алега Бахарэвіча «Практычны дапаможнік па руйнаваньні гарадоў».**

А. Бахарэвіч раней быў больш вядомы як вакаліст рок-гурта «Правакацыя», аўтар крыўднай байкі пра Янку Брыля і шоўмэн у шматлікіх акцыях калісьці таксама шырокавядомай у вузкіх калялітаратурных колах літаратурна-мастацкай суполкі Бумбам-літ.

Зараз А. Бахарэвіч выпусціў кніжку празаічных твораў, якія раней друкаваліся ў літаратурных часопісах маладзёвага накірунку – «Крыніца», «Першацвет», «Нігіль» і г.д. Цяпер і часопісы гэтыя больш не існуюць, і кінатэатр «Змена» рабіў сваю апошнюю культурна-асветніцкую акцыю – нехта на версе палічыў, што кінатэатр стратны для дзяржаўнай кішэні, і яго трэба зачыніць.

У мастацтвазнаўстве ёсць тэрмін «сырое мастацтва» – мастацтва, якім займаюцца беспрацоўныя, вар'яты і дзеці, словам, маргіналы грамадства. Так, большасць герояў у апавяданнях Бахарэвіча, – людзі, што знаходзяцца хутчэй каля падножжа сацыялінай лесвіцы і, паводле трапнага выразу Венечкі Ерафеева, *«плюющь на яе ўсю ад верху і да нізу»*.

У выбары А. Бахарэвічам сваіх герояў ёсць пэўная мэтафарычнасць – у маргінальным становішчы зараз апынулася не толькі нацыянальная культура і мастацтва, але, можна сказаць, усё наша грамадства. Варта, аднак, узгадаць як больш аптымістычны прыклад удзельнікаў парыжскай мастацкай суполкі «Вулей», якія працавалі як пчолкі, літаральна на хлебе і вадзе, і марылі дачакацца лепшых часоў. Бо працавітасці Алега Бахарэвіча можна пазайздросціць – перад Новым годам павінна выйсці яшчэ адна кніга прозы гэтага, безумоўна, таленавітага аўтара.

■

## ЗДАРЭННЕ

# Не лезь у калодзеж

АЛЕСЯ ГОРДЗІНА

**Надзвычайнае здарэнне адбылося днямі на трасе газаправода Мінск – Гомель ля вёскі Зафранцузская Грэбля.**

4 ліпеня, адсвяткаваўшы належным чынам Дзень Рэспублікі, мясцовы ляснік са сваім сябрам з вёскі Зацітава Слабада вырашылі прыдбаць трубу для лазні. Ды не абы-якую, а з магістральнага газаправода. Добра прыняўшы перад гэтым па чарцы, сябры праніклі на пляцоўку прыёму-запуску ачышчальнага прыстасавання і ўзламалі замкі з калодзежа гразепрыёмніка. Каб высветліць, ці прывараная труба і як яе выцягнуць з зямлі, адзін са злодзеяў залез у калодзеж і пасвяціў запалкай. У той жа самы момант калодеж азарыла ўспышка куды большай моцы. Гора-злодзей не дацяміў, што ў калодзежы збіраецца газ, які ўмомант успыхвае ад агню. На шчасце пацярпелага, яго не кінуў у бядзе саўдзельнік, які выцягнуў таварыша з калодзежа і адвёз дадому. Але ціхенька адляжацца не ўдалося. Спатрэбілася тэрмінова выклікаць «хуткую дапамогу», якая даставіла пацярпелага ў Пухавіцкую раённую бальніцу, дзе быў пастаўлены жахлівы дыягназ: пашкоджана 80 працэнтаў цела. Апёкі 2-3 ступені атрымалі твар, тулава, органы дыхання.

Нягледзячы на «Божую кару», у злаўмысніка, тым не менш, сумленне не прачнулася. У бальніцы ён, не міргнуўшы вокам, заявіў, што ў яго ўзарвалася паяльная лямпа. Урачы, відаць, пакрыўдзіліся, што іх лічаць за дурняў, бо апёкі пацыента ніяк не нагадвалі «лямпачныя», і звярнуліся ў міліцыю, якая хутка ўстанавіла сапраўдную прычыну хваробы. Пракуратура Пухавіцкага раёна распачала следства.

У сувязі са здарэннем рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Белтрансгаз» у чарговы раз звярнулася да насельніцтва і папярэдзіла ахвотнікаў «пагрэць рукі» на газаправодзе аб небяспечнасці такіх памкненняў. Бо калі труба ўзарвецца – думаць ужо не будзе чым.

■

## РЭГІЁНЫ

**Навагрудчына.** 5 ліпеня ў вёсцы Лоўчыцы (Навагрудскі раён Гродзенскай вобласьці) адбылося адкрыццё рэстаўраванай старажытнай мячэці. Як паведаміў БелаПАНу намеснік муфція Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў нашай краіне Ібрагім Канапацкі, мусульманскі прыход у гэтай вёсцы вядомы з 1420 года. У часы, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад адноўленай Польскай дзяржавы (1921–39), мячэць уваходзіла ў спіс ахоўваемых памятнікаў.

Сённяшнія рэстаўратары аднавілі храм у адпаведнасці з арыгінальнай пабудовай 1688 года. Прычым былі выкарыстаны элементы старажытных канструкцый. Мячэць знаходзіцца на старым мізары, дзе пахаваны татарскія генералы, удзельнікі паўстанняў супраць царызму ў 1794 і 1831 гадах. Зараз у Лоўчыцах пражывае толькі дзве мусульманскія сям'і, таму адноўлены храм, на думку Ібрагіма Канапацкага, будзе выконваць таксама функцыі музея гісторыі і культуры татар Беларусі, Польшчы і Літвы. Дарэчы, 80 працэнтаў неабходных для рэканструкцыі сродкаў выдзеліў польскі дабрачынны фонд «Рэспубліка Мультыэтніца».

**Віцебск.** Віцебскі абласны савет дэпутатаў прыняў рашэнне перадаць функцыі заказчыка аднаўлення Свята-Уваскрэсенскага храма ад праваслаўнай абшчыны да аддзела рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры Віцебскага аблвыканкама. Рашэнне матывавана тым, што ў адзеле хапае спецыялістаў у галіне тэхнічнага нагляду.

Свята-Уваскрэсенская царква ёсць помнікам архітэктуры XVIII стагоддзя. Яна была разбурана ў пік сталінскіх культурных пераўтварэнняў у 1936 годзе. Зараз вядуцца працы па яе адбудове: ужо пастаўлены падмурак і пачалося ўзвядзенне сцен. Мяркуецца, што ўсе работы будуць каштаваць каля 900 мільёнаў беларускіх рублёў.

**Магілёў.** На гэтым тыдні ў Магілёве праходзіць ужо традыцыйны фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа». Як і ў мінулыя разы, на свята музыкі з'ехаліся выканаўцы амаль з паловы Еўропы. Конкурсная праграма праходзіць у сценах касцёла св. Станіслава. Паралельна канцэрты адбываюцца на іншых сцэнічных пляцоўках горада над Дняпром. Усе мерапрыемствы можна наведаць бясплатна.

**Наваполацк.** Наваполацкі гарадскі савет дэпутатаў забараніў ставіць кіёскі, гандлёвыя прычэпы на мясцовых мінікірмашах. Таксама там быў забаронены продаж цукру, круп, алею і мукі. Як лічаць гарадскія ўлады, дробнарознічны гандль гэтымі таварамі на 6 наваполацкіх міні-кірмашах наносіць значныя страты стацыянарным крамам і аб'ектам грамадскага харчавання, якія з гэтай прычыны не забяспечваюць «асваенне квот» на трыкатаж, абутак, мыйныя сродкі мясцовых прадпрыемстваў. Як заўсёды, правы спажыўца гарадскі савет не цікавяць.

ДОЖИНКИ–2002

# ПРАЗДНИК НА КОСТЯХ ГОРОДА

НИКОЛАЙ КОРНЕЙЧУКОВ

**Посеревшие от времени фасады полоцких зданий обретают давно забытую свежесть. На тротуары кирпичик к кирпичику ложится пресловутая плитка. Люди в рабочей одежде буквально не дают прохода: центр города сплошь в строительных ограждениях. Словом, по Полоцку смело шагает традиционно предшествующий Дожинкам капитальный ремонт.**




**Этого дома в Полоцке уже нет**

Когда город преображается, это просто замечательно. Но Полоцк – это особый случай. Его исторический центр представляет собой историко-культурный заповедник, которому в этом году был придан статус национального. Именно эта, самая знаменитая, часть города, по плану примет на себя основную часть праздника урожая. Именно центр города больше всего разворочен экскаваторами. Работники заповедника забили тревогу: перестройка Полоцка несёт угрозу его исторической аутентичности.

На проблему существует три взгляда. Первый принадлежит одному из полоцких краеведов, пожелавшему остаться неизвестным. Он подтверждает, что проведение крупных строительных работ в центре Полоцка несёт опасность археологической ценности города. Об этом, по его мнению, прекрасно осведомлены как в Национальном полоцком историко-культурном заповеднике, так и в горисполкоме. Но, поскольку во многих местах рабочие врываются в землю не в первый раз, заповедник зачастую ленится их контролировать.

Полоцкие власти и не настаивают на присутствии специалистов из заповедника, так как не располагают ни деньгами, ни временем для их работы. Строительство кровь из носу нужно закончить к сентябрю, иначе – крышка.

Вторая, достаточно резкая трактовка происходящего, исходит из заповедника. Строительные работы ведутся, невзирая на указания и предостережения историков. Перестройка Полоцка подчинена требованию скорости и дешевизны, а ценность культурного слоя и расположение памятников архитектуры в расчёт не берутся. Работники заповедника опасаются, что Полоцк повторит судьбу развороченного экскаваторами Несвижа, который, по их мнению, после Дожинок практически перестал представлять археологическую ценность.

Убедительнее всего – точка зрения, которую озвучил начальник отдела культуры полоцкого горисполкома В. Ушак: *«И мы, и наш историко-культурный заповедник проводим работу для того, чтобы контролировать эти работы. По-другому и не может быть».*

Происходящее сейчас в Полоцке заставляет в очередной раз обратить взгляд на несовершенство закона, защищающего историко-культурное наследие Беларуси. Разрушение культурного слоя земли и преступлением-то по сути не считается. Судебный иск, поданный заповедником по немаловажному поводу (в ходе работ по подготовке к празднику городского стадиона был снесен дом – памятник архитектуры прошлого века), бумерангом вернулся для рассмотрения в полоцкую прокуратуру. Таким образом, работникам заповедника предстоит отстаивать право Полоцка на неприкосновенность в местных органах власти, которые заинтересованы, в первую очередь, в скорейшем окончании строительства любой ценой.

Пока горисполком и заповедник пытаются преодолеть разногласия, экскаваторы делают своё дело. Исторический Полоцк превращается в мумию. Бережно подкрашенная старина снаружи вполне соответствует образу города, которому в этом году стукнуло 1140 лет. Но стоит тронуть эту оболочку, как она рассыпается в пыль, обнажая разрушенную в процессе небрежной мумификации утробу. ■

ПРАФСАЮЗЫ

# Прафсаюзы мяняюць колер

АНТОСЬ САКОВІЧ

**Сытуацыя ў Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларускай абвастрылася настолькі, што зьезд, заплянаваны на восень, быў тэрмінова перанесены на 31 ліпеня — 1 жніўня. Прычым, яшчэ невядома, ці адбудзецца ён. Усё вырашыцца на пазачарговым пленуме Савету ФПБ 16 ліпеня.**

У самой Фэдэрацыі прафсаюзаў на гэтым тыдні атрымаць нейкую інфармацыю наконт будучага зьезду й пленуму Савету ФПБ было амаль немагчыма. Усе маўчалі, як партызаны, адсылаючы па камэнтар адзін да аднаго. Час ад часу можна было пачуць, што *«сытуацыя імкліва мяняецца, і ёсьць небясьпека таго, што пленум пройдзе не па сцэнару з П. Машэрава, 21* (ФПБ), *а, хутчэй, з К. Маркса, 38* (Адміністрацыя прэзыдэнта)*»*.

Знайсьці нейкае паразуменьне з уладай ФПБ так і не ўдалося, нягледзячы на зьмену кіраўніцтва (засьветленага ў прэзыдэнцкай кампаніі мінулага году Ўладзімера Ганчарыка замяніў на пасадзе старшыні Франц Вітко) і пэўныя аднабаковыя крокі ў напрамку кампрамісу. Улада, у адрозьненьне ад ФПБ, сваёй стратэгіі – поўнае падпарадкаваньне фэдэрацыі ці яе развал – нават не мяняла й не хавала гэтага факту. Як вынік такой зацятасьці паўсюль пачалі ствараціа так званыя жоўтыя прафсаюзы. Значная частка функцыянэраў ФПБ гэтаму ня толькі не перашкаджае, але й садзейнічае, здраджваючы традыцыйнаму для незалежных прафсаюзаў блакітнаму колеру.



Фота IREX/ProMEDIA

**Франц Вітко сасьпеў да перамен**

На пленуме Савету ФПБ, сапраўды, кожны з бакоў будзе імкнуцца прапіхнуць сваю праграму, каб правесьці зьезд па ўласным сцэнары. Жаданьні ўлады й пакуль яшчэ ўнутранай прафсаюзнай апазыцыі празрыстыя, як кавалак вяндліны ў дарагім рэстаране. Ім трэба ўсяго толькі памяняць кіраўніцтва на асобу, зацьверджаную ў Адміністрацыі прэзыдэнта. Некаторыя журналісты ўжо зараз прагназуюць, што віцэ-прэм'ер Леанід Козік выдатна пасуе да пасады старшыні ФПБ. Чаму не? Узначаліў жа Міхаіл Мясьніковіч Акадэмію навук. А ў біяграфіі Козіка як раз ёсць файны радок пра тое, як ён 8 гадоў узначальваў прафкам на БАТЭ.

У выпадку перамогі ўлады на зьездзе накат на фэдэрацыю завершыцца ўмомант. Вернуцца адколатыя ад ФПБ аскепкі жоўтага колеру. Пытаньне пра маёмасьць перастане мусіравацца ў дзяржпрэсе. Магчыма, будзе адменена й пастанова ўраду аб забароне безнаяўнага пераліку складак прафсаюзных чальцоў.

Праграма Франца Вітко нашмат большая й складаная. Зараз сама лёгіка супрацьстаяньня падштурхоўвае дзейснае кіраўніцтва ФПБ да радыкалізацыі. Франц Вітко ўжо сасьпеў да таго, каб пачаць ператвараць фэдэрацыю з *«приводных ремней партии»* у «баявы атрад пралетарыяту». Ён гатоў пагадзіцца са скарачэньнем сьпісачнай колькасьці фэдэрацыі на карысьць якаснага складу прафсаюзаў. Для гэтага яму ня толькі трэба захаваць сваё крэсла главы, але й правесьці зьмены ў Статут ФПБ.

Галоўнае ў зьменах – пакінуць толькі галіновы прынцып аб'яднаньня прафсаюзных пярвічак, забараніўшы рэгіянальны. Рэгіянальныя аб'яднаньні ФПБ найбольш падатлівыя ўплывам прэзыдэнцкае вэртыкалі. Фактычна, іх узначальвае тая ж былая партыйная намэнклятура. Яны з вэртыкальшчыкамі, амаль па Кіплінгу, – *«аднойкрыві»*: раней разам атрымлівалі дыплёмы ВПШ, зараз разам наведваюць банкеты, падымаючы кілішкі армянскага каньяку за здароўе прэзыдэнта.

Кіраўніка-рэгіянала можна памяняць, надавіўшы праз дырэктароў прадпрыемстваў на рэгіянальныя пярвічкі. Кіраўніка галіновага прафсаюзу дастаць нашмат складаней. Рэгіянальнасьць – урадлівая глеба для стварэньня кішэнных жоўтых прафсаюзаў. Таму ФПБ і зацікаўлена ў вэртыкалізацыі сваёй структуры.

Другая частка зьменаў датычыцца асноўных напрамкаў прафсаюзнае дзейнасьці. Сёньняшняе кіраўніцтва ФПБ згодна перайсьці (прынамсі, на словах) ад разьмеркаваньня пуцёвак у прафілякторыі да сваіх непасрэдных абавязкаў – абароны працоўных. Першае дасталося фэдэрацыі ў спадчыну ад ранейшых часоў, калі савецкія прафсаюзы былі філіялам *«соцобесов»* на заводах і фабрыках. Другое – гэта клясычныя функцыі трэйд-юніёнаў, якія й зьявіліся ў XIX стагоддзі менавіта дзеля выбіваньня ва ўласьнікаў прадпрыемства як мага лепшых умоваў працы для рабочых.

Як кажуць, час вяртацца да вытокаў. Тым больш, што з кожным годам беларускія рабочыя будуць адчуваць сваю неабароненасьць усё больш і больш. Беларусь яшчэ не прайшла стадыю масавае прыватызацыі прадпрыемстваў, але ад гэтага нікуды не падзенешся. Жадае Лукашэнка таго ці не, але ён будзе вымушаны пайсьці на прыватызацыю. А прыватны ўласьнік абавязкова будзе шукаць магчымасьці аптымізацыі вытворчасьці, у тым ліку й за кошт скарачэньня. І тут ужо рабочаму будзе не да пуцёвак, ён будзе патрабаваць ад прафсаюза рэальнай дзейнасьці. Сёньняшняя ФПБ на такое ня здатная. Для гэтага трэба ствараць ФПБ новую.

Іншая справа, ці не запозна ўжо рабіць дэфібрыляцыю й крычаць: *«Мы губляем яго»*? Можа, пацыент ужо даўно сканаў, і гэтая мітусьня каля халоднага цела ФПБ дарэмная? ■

ПОЛИТЭКОНОМИКА

# За чей счет музыка?

ТАТЬЯНА ПОПОВА

**Белорусская экономическая модель — явление загадочное. Никто никогда не описывал ее подробно, однако ее существование не подвергается сомнениям. На это указывают некоторые явления, сочетание которых действительно можно наблюдать только в Беларуси.**

Если существенно улучшить свое финансовое положение решит компания или обычный белорусский гражданин, то они понабивают много шишек, прежде чем поймут, что абсолютно легально это сделать невозможно. Если пополнить закрома решит государство, ему придется столкнуться с той же проблемой. Отличие желания первых от интенций второго в том, что первых за нарушение законов могут наказать, а представители властей друг с другом договорятся и на общественность шикнут.

## В обход закона

В течение последних лет было принято столько президентских декретов и указов, столько постановлений Совмина, внесено столько поправок в законодательство, что ввести новый сбор, не нарушая гармонии нормативной базы, непросто. Если перед чиновничеством стоит дилемма, следовать ли собственным решениям или наплевать на них, стремясь к поставленной цели, они выберут цель. Работа юриста в госконторе – адский труд. Ведь каждый день в новом документе нужно придумывать такие трактовки ранее подписанных бумаг, чтобы их смысл изменился на диаметрально противоположный.

Если даже юристы не в силах пояснить нормативный акт нужным образом, приходится идти на радикальные меры. Вплоть до объявления телефонограмм официальными документами, обязательными для исполнения. Именно посредством телефонограммы был введен запрет на регистрацию новых субъектов хозяйствования в 1996 году. Все, кого касалось то радикальное решение, возмущались, но лишь в кулуарах. Госчиновников не завалили жалобами, суды не ощутили наплыва исков.

Несколько месяцев спустя началась перерегистрационная кампания. Она то прерывалась, то возобновлялась или продлевалась. То и дело менялись ее правила. Эксперты предпринимательских объединений утверждают, что если бы глава государства задумал помочь теневому бизнесу, то лучшего способа он придумать бы не смог. Ведь в ходе перерегистрации давались взятки (поначалу даже для того, чтобы стать в очередь), ликвидировались предприятия, кредиторы лишались возможности предъявлять претензии (с кого спрашивать, если должника фактически нет).

С теневым бизнесом, на самом деле, в Беларуси не борются. Здесь провоцируют его развитие. В любом учебнике по экономике написано: теневой экономике способствует жесткий налоговый прессинг и невыносимая бюрократическая волокита. В странах с развитой демократией и свободной экономикой желающих рисковать собственным делом гораздо меньше, чем в Беларуси.

## С каждого по проценту — государству бюджет

Тем не менее, именно выводом теневиков на чистую воду чиновники и аргументируют свои действия. Борьба с финансовыми преступлениями не слишком успешна, ведь денег казне, как бы ни зверствовали проверки, не хватает. Государство постоянно ищет богатых людей на своей территории и придумывает, каким бы способом заставить их поделиться деньгами. Нерентабельные предприятия не в состоянии платить налоги в достаточном для удовлетворения правительственных потребностей объеме. Поэтому деньги выколачивают из кого возможно. С 1 августа текущего года, например, операторы сотовой связи будут отчислять в казну 5 процентов от выручки. Оплачивать причуду государства придется абонентам сотовой связи. Так уж повелось в нашей стране: платят и заказывают музыку разные субъекты.

Видимо, богатыми слывут и рекламщики. Во всяком случае, Мингорисполком решил, что с них не убудет, если они будут отчислять двадцатую часть заработанного на нужды города. Рекламщики же себе в убыток работать не намерены. Поэтому оплачивать прихоть городских чиновников будут те, кто в рекламных услугах нуждается. Если учесть, что на рекламные затраты субъекты хозяйствования могут списывать прежние, четко определенные, суммы, и что остальные деньги, потраченные на рекламу, относят к доходам, а значит, облагают подоходным налогом, то становится понятно, каким образом потребители дважды отстегивают государству, и как ловко государство переводит стрелки на бизнес.

## Острова свободы

Народ и не заметил, как поутихли разговоры о либерализации. Президент забыл обещание сократить процедуру регистрации до 15 минут. Правительство, чуть понизив существовавшие налоги, напридумывало новых. Подобие экономической свободы существует только на островках свободных экономических зон. Их организовали целых шесть: в Минске, Бресте, Могилеве, Гродно, Витебске и Гомеле. Свои названия эти заповедники рынка получили от городов, в которых они размещены.

Предлагая идею создания в Беларуси территорий, где могли бы разместиться предприятия, на которые не очень давит налоговый и пошлинный груз, власти рассчитывали, что в СЭЗ обоснуются мощные, наукоемкие производства, активно использующие новые технологии. Планировалось, что, пользуясь своим привилегированным положением, компании в СЭЗ будут развиваться особенно быстро, а значит, привлекать к сотрудничеству субъекты хозяйствования, которым меньше повезло с расположением и условиями деятельности.

Власти всерьез полагали, что СЭЗ станут этаким локомотивом, способным вытащить за собой всю гибнущую белорусскую экономику. На деле все обернулось не так просто. СЭЗ, конечно, могут похвастаться новейшим оборудованием, аналогов которому, по некоторым сведениям, нет в СНГ. Но используется это оборудование для консервирования селедки или выпуска мороженого. Это, конечно, не предел возможностей. На территории СЭЗ выпускают стройматериалы, мебельную фурнитуру и посуду для детского питания.

СЭЗ в Беларуси позволили достигнуть успеха отдельным промышленникам. Они являют собой пример того, как должно быть по всей стране. Однако, развивая производство в зонах, государство теряет в налогах. Во всем мире правительства пытаются если не закрывать существующие, то хотя бы не открывать новых СЭЗ. Производства, расположенные в СЭЗ, постепенно переводят на общий для всех предприятий режим налогообложения. Хвастаться количеством СЭЗ становится дурным тоном повсеместно, но не в Беларуси.

Белорусским властям СЭЗ пока нужны. Хотя бы для того, чтобы экономический регресс был не так заметен. Но предприятия, размещенные в СЭЗ, все чаще называют дармоедами. На круглом столе, организованном в Палате представителей по проблеме законодательства для СЭЗ, звучали предложения об ужесточении правил игры на островах свободы. Чиновники сохраняют верность стилю. ■

